Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 18 220.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Серада, 9 снежня 1998 г. № 133 (525) Кошт свабодны

**СВАБОДА**
Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Юрый Хадыка зноў у турме

**Суд Цэнтральнага раёна г.Мінска пакараў 15 удзельнікаў мітынгу, які прайшоў у нядзелю на Кастрычніцкай плошчы сталіцы і быў прысвечаны 50-годдзю Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека.**

Суддзя Анатоль Барысёнак палічыў, што было парушанае рашэнне Мінгарвыканкама, які дазволіў правядзенне акцыі, але толькі на плошчы каля Опернага тэатра.

Заяўнікі мітынгу Юрый Хадыка і старшыня праваабарончага цэнтра «Вясна-96» Алесь Бяляцкі атрымалі па 10 сутак. Абодва не прызналі сябе вінаватымі і заявілі, што закон парушылі гарадскія ўлады, беспадстаўна змяніўшы месца мітынгу. За ўдзел у «недазволенай акцыі» трое сутак арышту атрымаў лідэр Народнай Грамады Мікалай Статкевіч, а таксама актывісты БНФ Алег Шагулін, Віктар Рабушка і Уладзімір Кішкурна. Астатнім затрыманым удзельнікам мітынгу былі вынесеныя штрафы або папярэджанні.

Адначасова ў Партызанскім судзе горада быў асуджаны яшчэ адзін актыўны ўдзельнік праваабарончага мітынгу — дэпутат Валерый Шчукін. Суддзя Мікалай Трубнікаў «уляпіў» яму ажно 15 сутак арышту, аднак не за акцыю на Кастрычніцкай плошчы, а за ўдзел у шэсці рабочых 5 лістапада.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Гайда ў Парыж!

**Мерапрыемствы, прысвечаныя 50-годдзю Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, пачаліся 8 снежня ў Парыжы. Менавіта тут, у палацы Шайо, 50 гадоў таму Генеральная асамблея Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў прыняла Дэкларацыю.**

У юбілейных святкаваннях будуць удзельнічаць прадстаўнікі ўсіх краінаў свету. Сярод спецыяльна запрошаных гасцей — прэзідэнт Францыі Жак Шырак, генеральны сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў Кофі Анан, Вярхоўны камісар ААН па правах чалавека Мэры Рабінсон, генеральны дырэктар ЮНЕСКА Фрэдэрык Майор, дзяржсакратар ЗША Мадлен Олбрайт. На цырымонію таксама запрошаныя лаўрэаты Нобелеўскай прэміі свету, вядомыя праваабаронцы і грамадскія дзеячы. Па запрашэнні ўрада Францыі ў святкаванні прымаюць удзел прадстаўнік Хартыі-97 Андрэй Саннікаў і вядомы беларускі юрыст Міхаіл Пастухоў.

*Прэс-цэнтр Хартыі-97*

## Прафсаюзы баяцца «дэспатызму»

**Федэрацыя прафсаюзаў лічыць, што шэраг палажэнняў праекта дэкрэта прэзідэнта па пытаннях працоўнай і выканаўчай дысцыпліны супярэчыць працоўнаму заканадаўству.**

Пра гэта гаворыцца ў лісце, які ФПБ накіравала Аляксандру Лукашэнку. Гаворка ідзе, у прыватнасці, аб увядзенні сістэмы санкцыяў і штрафаў, не сумяшчальных з прынцыпамі працоўнага заканадаўства. *«Тым самым закладваецца магчымасць для ўзмацнення адміністрацыйнага дэспатызму ў сферы працоўных адносінаў, які пагражае абвастрэннем сацыяльнай напружанасці ў працоўных калектывах».*

*БелаПАН*



*Навесці парадак да 1 снежня не ўдалося*

# Прадукты па спісах

Як вядома, да 1 снежня прэзідэнт Лукашэнка загадаў «навесці парадак» у забеспячэнні насельніцтва прадуктамі. Але пайшоў ужо другі тыдзень снежня, а на харчовым рынку краіны зрухаў у лепшы бок не бачна, наадварот — прылаўкі сталі яшчэ бяднейшымі. Па-ранейшаму паўсюль у дэфіцыце яйкі, мяса, масла, смятана і іншыя самыя простыя прадукты.

Тым часам у прыватных гандляроў мяса падаражэла ледзь не ў паўтара раза — на рынках сталіцы кілаграм добрай свініны каштуе цяпер 450—500 тысяч рублёў. Гэта азначае, што большасць насельніцтва аказалася ў пастцы: на рынку мяса не купіш з-за высокіх цэнаў, а ў крамах яго няма. Што ж робіць «вертыкаль», каб дапамагчы простаму чалавеку не памерці з голаду?

Мяркуючы па тых звестках, якія НАВІНЫ атрымліваюць з абласцей краіны, «вертыкаль» спіць у шапку. У Брэсцкай і Гродзенскай абласцях далей стварэння «штабоў» і абмежавання продажу прадуктаў у адны рукі справа фактычна не пайшла. Каб набыць дзесятак яек, у Брэсце людзі займаюць чаргу на рынку ў 5 гадзінаў раніцы. Тое самае адбываецца ў Гродне. Масла «выкідваюць» увечары і адпускаюць толькі па 200 грамаў на чалавека. У Магілёве абмежавалі нават продаж сыру — не больш за 200 грамаў.



*Колькі яшчэ трэба стварыць «штабоў», каб зніклі чэргі і з'явіліся прадукты?*

У Віцебску ўводзіцца новы парадак рэалізацыі масла. Цяпер яно будзе прадавацца па спісах жыллёва-эксплуатацыйных службаў. У магазінах горада ўжо вывешаны спісы з пералікам вуліц і дамоў, жыхары якіх «прымацоўваюцца» да канкрэтных крамаў.

У правінцы праблемай стала купіць белы хлеб ці пшанічную муку. У Магілёве гарадскія ўлады загадалі аб'яднанням «Хімвалакно», «Трансмаш» ды некаторым іншым прадпрыемствам адправіць на Украіну «ганцоў» з прапановай абмену магілёўскай прадукцыі на белую ўкраінскую муку. Ці будзе з гэтага вынік — невядома.

А ў Гомельскай вобласці пайшлі іншым шляхам. У Жлобіне, напрыклад, вертыкальшчыкі націснулі на дырэктараў заводаў, і тыя стварылі «абшчак» памерам у 12 мільярдаў рублёў. На гэтыя грошы збіраюцца купіць камбікорм для мясцовай птушкафабрыкі, якая абяцае расплаціцца яйкамі і курамі.

У становішчы чалавека з працягнутай рукой аказаліся не толькі пенсіянеры ды рабочыя, але і вайскоўцы. *«Вельмі цяжкая сітуацыя з прадуктамі склалася ў вайсковых гарадках»,* — пацвердзілі ў прэс-службе міністэрства абароны. Салдацкія пайкі пакуль не ўрэзалі, а вось у гарнізонных крамах — пустыя паліцы.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Новае начальства – новыя «замарочкі»

**Новаспечаны старшыня Мінскага аблвыканкама Мікалай Дамашкевіч адразу даў адчуць падначаленым сваю цвёрдую руку. Не ў літаральным сэнсе, канешне.**

Апынуўшыся на новай пасадзе, былы галоўны кантралёр М.Дамашкевіч не стаў доўга «раскачвацца», а адразу ўключыўся ў работу. На выхадныя ён адправіў усіх сваіх намеснікаў па калгасных фермах, каб чыноўнікі ўласнымі начальніцкімі вачыма пракантралявалі ход справаў.

Акрамя таго, М.Дамашкевіч забараніў старшыням райвыканкамаў і іншым вертыкальшчыкам наязджаць у Мінск і звяртацца да абласнога кіраўніцтва па ўласнай ініцыятыве. *«Калі вы мне спатрэбіцеся, я вас выклічу сам»*, — прыкладна гэтак выказаўся М.Дамашкевіч.

Мікалай Дамашкевіч трапіў у кіраўнікі Мінскай вобласці з крэсла старшыні Камітэта дзяржаўнага кантролю. Ёсць версія, паводле якой новае прызначэнне М.Дамашкевіча выклікане тым, што яго рыхтуюць у прэм'еры і таму хочуць «абкатаць» на абласным узроўні.

**Зміцер ЛІХТАРОВІЧ**

*Мінск*

## Падарункі дзецям-сіротам

**Мэр Мінска Уладзімір Ярмошын распарадзіўся выдзеліць з гарадскога бюджэту 7,6 мільярда рублёў на навагодня падарункі дзецям.**

Іх атрымаюць бясплатна больш за 25 тысяч дзяцей з дамоў-інтэрнатаў і іншых сацыяльных установаў, а таксама дзеці з малазабяспечаных сем'яў. Распрацаваны графік уручэння гэтых падарункаў прадстаўнікамі мясцовай улады, якія пачнуць з 21 снежня развозіць пакеты з цукеркамі. Кошт кожнага падарунка складае прыкладна 350 тысяч рублёў.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Беларусь – краіна праваслаўных?

**Каля 80 працэнтаў з усёй колькасці вернікаў у Беларусі прытрымліваюцца праваслаўя.**



Такую лічбу паведаміў журналістам кансультант Дзяржкамітэта па справах рэлігіяў Вячаслаў Савіцкі. Па ягоных словах, на пачатак гэтага года ў Беларусі зарэгістравана 1.031 праваслаўная абшчына, 392 — каталіцкія, 357 — хрысціян веры евангельскай, так званых пяцідзесятнікаў. Усяго ж у Беларусі зарэгістравана 26 канфесіяў.

Разам з тым, Вячаслаў Савіцкі звярнуў увагу на наяўнасць у рэспубліцы «дэструктыўных сектаў». У прыватнасці, экспертны савет пры Дзяржаўным камітэце па справах рэлігіяў, які ўзначальвае прафесар Круглоў, адмовіў у рэгістрацыі 11 такім сектам. Па ацэнцы экспертаў, яны налічваюць цяпер прыкладна 1.500 чалавек.

*БелаПАН*

*Візіт*

***Плануецца, што 11—12 снежня Беларусь з рабочым візітам наведае прэзідэнт Украіны Леанід Кучма.***

*Тэлебачанне*

***Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка паведаміў журналістам, што ў хуткім часе будзе адменена вяшчанне на тэрыторыі Беларусі аднаго з расійскіх тэлеканалаў. Эфірны час, які вызваліцца, зойме другі канал Беларускага тэлебачання «БТ-2».***

*Хлеб*

***Для поўнага задавальнення патрэбаў Беларусі ў пшанічнай муцэ неабходна закупіць за мяжой звыш 300 тысяч тон харчовай пшаніцы. Пра гэта заявіў намеснік старшыні камітэта па хлебапрадуктах Леанід Крыжаноўскі. Ён таксама паведаміў, што плануецца павышэнне цэнаў на хлебабулачныя вырабы з адначасовай выплатай кампенсацыі маламаёмным слаям насельніцтва.***

*Ушанаванне*

***Сёння, 9 снежня, у 12 гадзін адбудзецца ўскладанне кветак да помніка Максіму Багдановічу каля Опернага тэатра ў Мінску.***



На здымку: гэты хлопец ужо прайшоў медкамісію і прызнаны «годным» да службы ў беларускім войску.

## Судзімасці няма? У войска!

**У панядзелак, 7 снежня у Беларусі пачалася чарговая прызыўная кампанія.**

У гэты дзень з абласнога зборнага пункта ў Мінску ў войска адпраўлена першая партыя навабранцаў. Усяго ж па Беларусі ў гэты дзень пайшлі служыць больш за тысячу маладых людзей.

Чакаецца, што да 15 студзеня 1999 года беларуская армія атрымае папаўненне — каля 18 тысяч маладых людзей.

Адтэрміноўку ад праходжання ваеннай службы атрымалі каля 20 тысяч грамадзянаў Беларусі. Пераважнай большасці з іх — каля 17 тысяч — адтэрміноўка прадастаўленая для прадаўжэння адукацыі. Адпраўка ў войска маладых людзей, якія маюць судзімасць, прыпыненая да асобага распараджэння.

**А.С.**

## Аднаго пакаралі за ўсіх

**Каля ста рабочых інструментальнага цэха гомельскага завода «Электраапаратура» падпісалі заяву з патрабаваннем да адміністрацыі прадпрыемства спыніць праследаванне старшыні заводскай суполкі Свабоднага прафсаюза Анатоля Паплаўнага.**

Анатоль атрымаў вымову і быў поўнасцю пазбаўлены прэміяльных за ўдзел у страйку і мітынгу 1-2 снежня, у якіх удзельнічала каля 500 рабочых завода. Пакараць усіх адміністрацыя пабаялася і вырашыла абмежавацца пакараннем прафсаюзнага актывіста.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## У бяздомнага засталася адна граната

**У аўторак у Гомелі быў затрыманы бомж з сапраўднай баявой гранатай.**

Грамадзянін Траццякоў зайшоў вечарам у адно з гомельскіх кафэ. Супрацоўнікі гэтай установы заўважылі, што з кішэні незвычайнага наведвальніка тырчыць нешта падазронае. Выкліканая міліцыя знайшла ў бамжа Траццякова баявую гранату. Бяздомнага даставілі ў аддзел унутраных справаў Навабеліцкага раёна. Узбуджана крымінальная справа.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Усё для людзей

**У Хойніках Гомельскай вобласці кантралёры «Гомельэнерга» выявілі самага буйнога раскрадальніка электраэнергіі.**

Займаўся гэтым не абы-хто, а раённы жылкамунгас. Камунальнікі ўмудрыліся падключыць без лічыльніка ўсё вулічнае асвятленне Хойнікаў.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

*Лісты ў рэдакцыю*

# Чем выше доходы, тем больше демократии

Если государство не платит врачам и учителям, пусть заплатят им те, кто пользуется их услугами, хотя бы частично. Пример: система оплаты за обучение в музыкальных школах. И школы, и медицинские учреждения могут ввести платные услуги населению и обеспечить, хотя бы частично, заработок своим работникам. То же самое может проделать любая бюджетная организация. Другое дело, если хозяйственная деятельность запрещается. Запретить можно разными способами: напустить налоговиков, которые в виде штрафов уничтожат весь доход, а директора, отвечающего за все, привлекут к уголовной ответственности, поэтому все боятся и ничего не предпринимают. Людей ставят в безвыходное положение. Кому от этого польза? Коммунистам, жаждущим вернуть старые порядки.

Между тем, основа демократии — частная собственность. В условиях государственной монополии на собственность демократия обречена на гибель, т.к. демократия держится на экономической независимости людей, которую в свою очередь может обеспечить владение частной собственностью и свободное распоряжение ею. Но вот тут-то и главная причина пробуксовки демократических реформ. Наши государственные монополисты столько лет делали все, чтобы закабалить человека, лишить его свободы и независимости, что конечно же не могут развернуться в обратном направлении. Раньше не пускали за границу, лишали «нагрузки», путевок, уменьшали пенсию, увольняли с работы и т.д. Теперь принимают законы на разных уровнях, чаще на местном, которые лишают людей возможности заработать деньги. У нас в Гродно из 20 требований профсоюзного комитета предпринимателей не выполнено ни одно, зато повышена плата за торговое место на вещевом рынке с 900 тысяч до 2,5 миллионов рублей, что разорительно для многих предпринимателей.

Никто, наверное, не будет возражать, что степень дохода — это степень свободы, а степень свободы — количество демократии. Судя по законам, лишающим нас дохода в пользу государственной монополии, демократии у нас маловато. Государство объявило войну частникам и, похоже, что большинство населения это устраивает. Наш человек, видно, привык быть зависимым от начальства, от коррупции, от государства... Всё вместе это называется существовать в тоталитарном режиме.

Между тем, рядом с нами находятся государства, где не попираются демократические свободы, а, наоборот, поддерживаются. Такое стало возможным, потому что в этих странах ВСЯ собственность никогда не принадлежала государству и хотя бы часть людей были свободны и независимы. Эта часть независимых людей смогла добиться свободных и независимых выборов во властные структуры. Другого пути к демократии нет: пробивайтесь к экономической свободе, выдвигайте своих кандидатов на выборах. Таких, которые, создавая законы, защищали бы ваши доходы, а значит, вашу свободу и независимость.

**О.КОТОВА,**
*г.Гродно*

# Што было





Учора споўнілася 7 гадоў з таго дня, як былі падпісаныя знакамітыя Белавежскія пагадненні, у выніку якіх была пастаўленая кропка ў гісторыі Савецкага Саюза

Нашы сёньняшнія суразмоўцы, Станіслаў ШУШКЕВІЧ і Леанід КРАЎЧУК, увайшлі ў гісторыю як аўтары Белавежскіх пагадненняў. І, адпаведна, як першыя кіраўнікі незалежных дзяржаў, што паўсталі на руінах Савецкага Саюза.

З Л.Краўчуком і С.Шушкевічам наш карэспандэнт гутарыў паасобку, але пытанні задаваліся практычна аднолькавыя.

**— Каму належала ініцыятыва сустрэчы ў Віскулях?**

**С.Ш.** Спачатку яна планавалася як сустрэча, прысвечаная эканамічным пытанням, паміж Ельцыным і мною. Я запрасіў Ельцына падчас апошняга нова-агароўскага саміту ў канцы кастрычніка 1991-га.

Трэба нагадаць, што пасля жнівеньскага путчу быў створаны Дзяржаўны савет, які складаўся з кіраўнікоў рэспублік. У асноўным усе яны раней ужо былі пры ўладзе. Гэта не значыць, што яны кепскія, сярод іх ёсць людзі, якіх я вельмі паважаю. Але яны звыкліся да субардынацыі, і не дазвалялі сабе спрачацца з першай асобай. А ў мяне такой наменклатурнай звычкі няма, і калі я бачыў, што Гарбачоў нясе нешта нелагічнае — я пярэчыў. Супраць прапаноў Гарбачова маглі выступаць альбо Ельцын, альбо я, і яшчэ час ад часу Краўчук — больш ніхто.

І вось, калі Гарбачоў даў Дзяржсавету праект новага саюзнага дагавора, мы з Ельцыным выказалі шэраг крытычных заўваг. Гарбачоў стаў у позу і пакінуў залу паседжання. Тады нехта з удзельнікаў нам кажа: «Раз вы гэту кашу заварылі — то ідзіце і самі дамаўляйцеся з Гарбачовым». Мы пайшлі і дамовіліся. А пакуль мы ішлі, я запрасіў Ельцына ў Белавежскую пушчу, на паляванне. Абавязкі перад саюзным цэнтрам у рэспубліках даўно не выконваліся, на той момант у Расіі рэальна быў пры ўладзе Ельцын, і аб эканамічным супрацоўніцтве (напрыклад, аб пастаўках нафты) трэба было дамаўляцца напрамкі з ім. Ельцын запрашэнне прыняў, і мы вырашылі сустрэцца да канца 91-га года.

Далей, калі мы пачалі канкрэтызаваць дату, ужо адбыліся прэзідэнцкія выбары на Украіне. Мы параіліся з Кебічам і вырашылі запрасіць адначасова з Ельцыным і Краўчука. Я патэлефанаваў Ельцыну, ён быў не супраць.

**Л.К.** У Нова-Агарове, калі абмяркоўваўся праект саюзнага дагавора, мы з Шушкевічам у перапынках некалькі разоў размаўлялі па гэтых пытаннях. Мы бачылі, што справа заходзіць у тупік, што Савецкага Саюза ўжо не будзе, што патрабуецца нешта новае. І вырашылі, што трэба будзе сабрацца і пагаварыць пра гэта больш грунтоўна.

Ініцыятыва сустрэчы ў Віскулях належала Шушкевічу. Спачатку ён дамовіўся сустрэцца з Ельцыным. І, калі Ельцын зрабіў гэты візіт, Станіслаў Станіслававіч патэлефа-

# Пока люди молчат...

Подходит к концу пятилетний срок правления президента Республики Беларусь Александра Лукашенко. Результаты его деятельности свидетельствуют о полном крахе авторитарных методов руководства — насилия над экономикой, массового нарушения прав человека. Голодные очереди возле полупустых прилавков, катастрофический рост цен на товары первой необходимости, непомерно раздутый аппарат подавления, изолированная от всего мира страна — вот итог некомпетентной политики одного человека, заложниками которой стали миллионы белорусов. Но диктатура существует до тех пор, пока люди молчат. Режим боится нашей солидарности.

Год назад была объявлена гражданская инициатива Хартия-97, провозгласившая своей целью защиту прав и свобод граждан. Сегодня более ста тысяч наших соотечественников поставили свои подписи под этим документом, сделав свой выбор в пользу Свободы. В конце января 1999 года состоится Конгресс демократических сил, который выработает программу спасения белорусской экономики и стратегию совместных действий по восстановлению демократии в Республике Беларусь.

Мы призываем всех граждан поддержать деятельность демократических партий, движений и профсоюзов по защите прав трудящихся и восстановлению закона и порядка. Мы обращаемся к вам с просьбой проявить солидарность с политзаключенными и поставить свою подпись под текстом Хартии-97. Мы верим, что Конгресс демократических сил объединит всех, кому дорога судьба Родины. 1999 год станет годом избавления от диктатуры!

**Станислав БОГДАНКЕВИЧ**, *председатель Объединенной гражданской партии*, **Геннадий КАРПЕНКО**, *председатель Национального исполнительного комитета*, **Андрей САННИКОВ**, *координатор Хартии-97 по международным связям*, **Николай СТАТКЕВИЧ**, *председатель Белорусской социал-демократической партии «Народная Грамада»*, **Юрий ХОДЫКО**, *заместитель председателя Белорусского Народного Фронта*

# Из золотого дождя нашим евреям перепало лишь несколько капель

**Немецкий еженедельник *Woche* пишет о серьезных нарушениях, допущенных международными еврейскими организациями в распределении компенсаций жертвам Холокоста в годы Второй мировой войны.**

В то время как в США еврейские организации выторговывают миллиарды долларов на выплаты компенсаций жертвам Холокоста, в Восточной Европе десятки тысяч людей, переживших этот самый Холокост, прозябают в нищете. В августе текущего года швейцарские банки *UBS* и *Credit Suisse* согласились выплатить пострадавшим 1 миллиард 250 миллионов долларов, годом раньше правительство Швейцарии создало гуманитарный фонд, куда было переведено более 200 миллионов долларов. Однако из этого золотого дождя восточноевропейским евреям перепало лишь несколько капель.

А ведь еще два года назад, когда Всемирный еврейский конгресс только начинал пропагандистскую кампанию против швейцарских банков, восточноевропейские евреи — жертвы нацистского террора пришлись как нельзя более кстати. Этими людьми, которые десятилетиями влачили жалкое существование за «железным занавесом», воспользовались для оказания морального давления на швейцарские банки. Однако когда речь зашла о распределении средств из этого швейцарского фонда, «Всемирная еврейская организация по реституции» выделила восточноевропейским евреям всего 59 миллионов из 200.

Несмотря на декларируемый международный характер этой организации, отмечает еженедельник, ее предвзятость очевидна: она старается удовлетворять в основном интересы американских евреев. Многие годы среди руководителей этой организации не было ни одного представителя из Центральной и Восточной Европы.

**Валерия ШАБАЕВА**

# После «шоковой терапии»

*«Одна из самых успешных на современном этапе программ реформирования сделала Польшу самой быстро развивающейся европейской страной за последние восемь лет»,* — такую высокую оценку дал послекризисному состоянию польской экономики Джефри Сакс, директор Гарвардского института международного развития. Первопроходец тернистого пути рыночного реформирования, в значительной степени зависевший от «большого брата», Польша на практике доказала не только возможность действительной, а не формальной либерализации некогда тоталитарной экономики, но и возможность успешного сосуществования с развитыми экономиками Запада.

Высокую оценку со стороны международных финансовых организаций получил также и личный вклад наиболее видных польских финансистов. В частности, вице-премьер-министр и министр финансов Польши Л.Бальцерович был в этом году удостоен титула лучшего министра финансов года, ежегодно присуждае-



мого влиятельным международным финансовым журналом *Euromoney*. А не менее авторитетный журнал *Global Finance* в третий раз присудил Ханне Гронкевич-Вальц ***(на снимке)***, президенту Национального банка Польши, *Global Finance Award* за лучшее руководство центральным банком. Вручение аналогичной награды в двух предыдущих случаях — по итогам 1994 и 1996 годов — сопровождалось оценкой ее работы как «очень хорошей». В этом же году г-жа Гронкевич-Вальц была удостоена оценки «отлично».

Сама госпожа председатель считает, что залогом успеха реформирования стали решительность и последовательность: *«Нам удалось избежать искушения. Мы с самого начала поняли, что не существует третьего пути между социализмом и капитализмом».*

Пережив крайне болезненный этап «шоковой терапии», полякам удалось построить общество, регулируемое не коррумпированными бюрократами и рэкетирами, а действующим, и к тому прозрачным законодательством, ориентированным на свободные рыночные отношения. *«У нас еще осталась память о капитализме и даже кое-какой опыт»,* — замечает г-жа Гронкевич-Вальц. Может быть, именно благодаря этому полякам удалось создать за последние десять лет два миллиона частных предприятий, что для 39-миллионной страны — достаточно много. Кроме того, 60 процентов капитализации Варшавской фондовой биржи приходится именно на долю поляков, тогда как в России 95 процентов капитализации российской фондовой биржи приходится на долю иностранцев.

**Оксана ПРИХОДЬКО**

# Кто нравится полякам

## *Примерно 50 % опрошенных негативно относятся к белорусам*

В Польше обнародованы результаты опроса, целью которого выяснить симпатии или антипатии поляков по отношению к другим народам. Центром исследования общественного мнения было опрошено 1.094 респондента, представлявших различные группы взрослого населения.

Социологи выяснили, что самые большие симпатии поляки испытывают к американцам, французам, итальянцам и англичанам. О дружеских чувствах, например, к американцам поведал 61 процент респондентов. Не любят американцев всего 10 процентов, а относятся безразлично — 24 процента. 5 процентов затруднились ответить.

Наименьшими симпатиями у поляков пользуются цыгане — 69 процентов опрошенных заявили, что не желали бы иметь с цыганами никаких дел.

На втором месте по уровню антипатий оказались румыны — 60 процентов. Не особо любят поляки и своих соседей из бывшего СССР — против украинцев настроены 59 процентов, против россиян — 55 процентов. Кроме того, примерно 50 процентов респондентов негативно относятся к сербам, евреям и белорусам.

Наибольшими симпатиями из соседних народов у поляков пользуются чехи — о своих самых теплых чувствах к ним заявили две пятых респондентов. Чуть холоднее, но в целом очень неплохо относятся поляки к словакам, немцам и литовцам.

Если же сравнить полученные данные с данными аналогичного опроса в прошлом году, то выяснится, что поляки стали хуже относиться почти ко всем иностранцам. Но больше всего в глазах поляков потеряли евреи — количество симпатизирующих уменьшилось на 9 процентов, в то время как число недоброжелателей возросло на 7 процентов.

**Юрий КРОК**

# ў Віскулях

наваў мне і запрасіў у Беларусь, дадаўшы, што Ельцын таксама просіць мяне прыехаць.

**— Ці ведалі вы загадзя, пра што будзе ісці размова?**

**Л.К.** Так. Сітуацыя ж змянілася: на Украіне прайшоў рэферэндум, на якім народ — 92% — выказаўся за незалежнасць краіны (ініцыяваў гэты рэферэндум я). Калі я паведаміў гэтую лічбу Гарбачову, яна стала для яго вялікай нечаканасцю. Вынікі рэферэндуму значылі, што Украіна выходзіць з Савецкага Саюза. Яна магла пайсці адна (удалося б ёй гэта ці не — зараз прагназаваць цяжка). Але было відавочна, што Саюзу засталося жыць нядоўга, што трэба шукаць новыя формы ўзаемадзеяння. Пра гэта мы і селі дамаўляцца. Ельцын звярнуўся да мяне з пытаннем, якое яго папрасіў паставіць Гарбачоў: ці згодзіцца Краўчук з тым, што ў абноўленым Саюзе будуць нейкія саступкі Украіне? Саступкі былі такога плану, як узгодненая міжнародная палітыка, большая самастойнасць рэспубліканскай улады, права самім збіраць падаткі і плаціць іх у федэральны бюджэт. Я адказаў, што ўсё гэта я прапаноўваў у Нова-Агарове, пакуль яшчэ не адбыўся рэферэндум — а цяпер ужо я не магу на гэта пайсці. Пасля майго адказу мы сталі вырашаць пытанне іншага характару — аб стварэнні СНД як новага міждзяржаўнага аб'яднання.

**С.Ш.** Нават калі мы ўжо вырашылі запрасіць Краўчука, меркавалася, што перамовы будуць прысвечаныя пераважна эканамічным пытанням. Таму адразу была дамоўленасць, што ў сустрэчы будуць удзельнічаць прэм'еры (у Расіі тады прэм'ера не было, і ўдзел браў дзяржсакратар Бурбуліс). Што ж да палітыкі, дык планавалася зрабіць толькі заяву з прапановамі па саюзным дагаворы. Але калі мы сустрэліся з Ельцыным і Краўчуком, я адчуў, што заяваю мы не абмяжуемся і пойдзем далей. Краўчук сказаў, што дзеля такой заявы можна было б і не збірацца; у тым жа плане выказаўся і Ельцын.

**— Хто выказаў ідэю распрацаваць не заяву, а менавіта юрыдычны дакумент?**

**С.Ш.** Гэта ўзнікла само сабой, калі мы ўсе прыйшлі да высновы, што Савецкі Саюз фактычна ўжо разваліўся, і трэба, каб гэты факт набыў юрыдычную форму. Гэтая костка павінна была абрасці мясам. Бо калі Саюз спыняе існаванне, дык трэба зрабіць, каб наступствы гэтага не пагражалі людзям і краінам, каб быў запоўнены вакуум. Толькі заявай тут не абыдзешся. Фармулёўкі пагаднення мы распрацоўвалі ўсе шасцёра (Ельцын, Краўчук, я, Бурбуліс, украінскі прэм'ер Фокін, Кебіч), абмяркоўвалі ўсё да кожнай літары (прычым кожны ўдзельнічаў актыўна — хто больш, хто менш — але не было ні аднаго такога, хто б проста сядзеў і ківаў). Да таго ж у ноч з 7-га на 8-е працавала падрыхтоўчая група, у якую ўваходзілі: ад Расіі — Гайдар, ад Беларусі — Мясніковіч і Краўчанка, і некалькі ўкраінцаў.

**Л.К.** Ініцыятарам такога дакументу быў я — калі браць саму ідэю, а не змест. Над зместам працавалі разам. Нейкія чарнавыя нарыхтоўкі былі ў Бурбуліса, абдуманыя прапановы былі ў мяне. Пісалі па чарзе: я трымаў ручку, пасля Шушкевіч, пасля Кебіч... Напісанае аддавалі ў групу рэдактараў, якія рабілі стылёвыя праўкі і вярталі тэкст нам. Зацвярджалі ўсё кансэнсусам, аднагалосна.

**— Ці быў намер запрасіць у Віскулі каго-небудзь яшчэ з тагачасных лідэраў?**

**Л.К.** Мы запрашалі Назарбаева, аднак ён не прыехаў. Пасля даводзілася чуць меркаванне, што, маўляў, трэба было запрасіць яшчэ і Гарбачова. Ага, зараз...

**С.Ш.** Яшчэ перад сустрэчай я пажартам запытаўся ў Ельцына: «Можа, Гарбачова запрасіць?» Ён адказаў абсалютна сур'ёзна: «Калі запросіце Гарбачова, дык я не паеду».

У Віскулях была размова, што раз такая сур'ёзная справа — трэба паклікаць Назарбаева, каб былі не толькі славянскія кіраўнікі. Звязаліся з ім. Ён якраз ляцеў самалётам у Маскву — сказаў, што там заправіцца і прыляціць да нас. Але так і не прыляцеў.

**— Ці прымаліся ў Белавежскай пушчы нейкія спецыяльныя меры засцярогі?**

**С.Ш.** Я паклапаціўся пра тое, каб была вельмі надзейная ахова. Старшыня КДБ Беларусі Шыркоўскі гарантаваў мне, што прыме адпаведныя меры засцярогі і бяспека будзе на вышэйшым узроўні.

**Л.К.** Падчас сустрэчы спецыяльных мераў засцярогі я сам не прымаў, і не заўважыў, каб гэта рабілі астатнія. І толькі пасля таго, як пагадненні былі падпісаныя, як Ельцын патэлефанаваў Бушу, а Шушкевіч — Гарбачову, мы адчулі, што затрымлівацца не варта. Адразу пасля вячэры Ельцын сказаў: «Я адлятаю — і вам рэкамендую зрабіць тое ж самае». І на працягу гадзіны мы раз'ехаліся.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**



*А.Лукашенко:*

***«Выбросьте вы, Борис Николаевич, из головы эти мысли о Беловежской пуще. Кравчук и Шушкевич заставили вас подписать это соглашение. Это была их цена за помощь в борьбе с Горбачевым, ведь они понимали, что два медведя в одной берлоге жить не могут, а вы тогда боролись за власть в России».***

*(«Огонек», № 43, октябрь 1996 г.)*




*На здымку (з архіва СВАБОДЫ):* ***12 снежня 1991 года. Плошча Незалежнасці ў Мінску ў дзень ратыфікацыі белавежскіх пагадненняў у беларускім парламенце.***

# Без срока давности

**Вильнюсский окружной суд вынес в прошлый четверг приговор трем бывшим военнослужащим истребительного отряда НКВД СССР, обвиняемым в убийстве литовской семьи в деревне Салиню Зарасайского района в мае 1945 года.**

76-летнему гражданину Литвы Кириллу Куракину предстоит провести в колонии усиленного режима 4 года, Пятрасу Барташявичюсу и Юозасу Шакалису (оба 1923 года рождения) — по 2 года 4 месяца. В начале 1997 года Вильнюсский окружной суд уже выносил приговор по этому делу, но осужденные его обжаловали, судебное разбирательство было начато заново, причем прежний приговор предусматривал меньшие сроки заключения.

Тем временем, как сообщают информагентства, Финляндия собирается начать консультации с российскими судебными властями для изучения вопроса о возможности преследования людей, виновных в убийствах финского гражданского населения в годы Второй мировой. По финским оценкам, с 1941 по 1944 год советскими военными было убито около 200 гражданских лиц, в основном — жителей прифронтовых деревень.

По информации Франс-пресс, этим вопросом уже занялась служба генпрокурора страны на основании запроса ассоциации «Суур-Суоми», известной в основном своим требованием присоединить Карелию к Финляндии.

**Б.П.**

*Теннис*

# Вступление белорусов в мировую элиту

**Борис ТАСМАН**

Футбол и теннис — антиподы, особенно у нас — в Беларуси. Футбол — игра народная, доступная практически всем. Теннис элитарен: возможностью увлеченно носиться с ракеткой по корту располагают не сотни тысяч белорусов, а несколько сот счастливчиков, обладающих либо талантом, либо властью, либо деньгами. И по спортивным характеристикам футбол и теннис — на разных полюсах. О футбольном неблагополучии мы уже писали, сегодня настало время поговорить о самом прогрессирующем у нас с точки зрения большого спорта виде.

## Эстафета

Прежде победы белорусов на кортах олицетворяли с именем Натальи Зверевой. Но в нынешнем году на штурм вершин ринулась целая группа талантливых ребят, достижения которых позволили Беларуси войти в клуб избранных теннисных держав.

Выше других по-прежнему котируется Зверева. Эта уникальная спортсменка вот уже более десяти лет входит в элиту мирового тенниса. Из ныне играющих только выдающиеся Штеффи Граф и Яна Новотна могут похвастать подобным спортивным долголетием. Между тем, сезон-98 для Наташи выдался непростым. Впервые за последние годы она не выиграла в парном разряде ни одного из четырех турниров «Большого шлема» (открытые чемпионаты Австралии, Франции, Англии — Уимблдон — и США). Год назад покинула большой спорт американка Джи-Джи Фернандес, в дуэте с которой



Наталья Зверева.

Зверева 14 раз (!) побеждала на турнирах «БШ». Наташа объединилась с другой американкой — Линдсэй Дэвенпорт, которая недавно стала лидером женского тенниса. Но в парной игре простое сложение теннисной силы двух индивидуальностей не всегда приводит к желаемому результату. Наташа и Линдсэй четырежды добирались до финала, но всякий раз уступали Мартине Хингис и Новотной (в Австралии партнершей Мартины была юная хорватка Мирьяна Лючич). На недавно завершившемся чемпионате мира Хингис — Новотна оступились уже в первом круге, что позволило Зверевой — Дэвенпорт беспрепятственно прошествовать к трону. В одиночном разряде Наташа тоже попала в число 16 лучших теннисисток мира, разыгравших чемпионский титул. Правда, минчанка в первом же круге проиграла француженке Натали Тозья, которой уступила и в полуфинале Уимблдонского турнира. Тогда, на английской травке, Зверева впервые в своей карьере одну за другой повергла легендарных Штеффи Граф и Монику Селеш.



Ольга Барабанщикова.

Другая наша прима — Ольга Барабанщикова — на открытом чемпионате Австралии пробилась в число 32 сильнейших, но на ее пути встала знаменитая Мари Пьерс. В августе в Стамбуле Ольга впервые стала финалисткой турнира «Мировой серии». Более опытная Генриетта Надьова из Словакии (№ 21 в рейтинг-листе *WTA*) оказалась чуть удачливее — 6:4, 3:6, 7:6 (11:9). В Токио Барабанщикова превзошла известную француженку Жюли Алар и вошла в четвертьфинал турнира с призовым фондом 450 тысяч долларов.

Минчане могли воочию убедиться в мастерстве своих соотечественниц на матче Кубка федерации (фактически командное первенство мира) Беларусь — Венесуэла, который хозяйки корта выиграли со счетом 4:1. Лидером сборной проявила себя как раз Барабанщикова, принесшая команде три очка. Она продемонстрировала мощный наступательный стиль игры, сломивший фаворитку гостий Марию Венто (№ 35 *WTA*). Сама же Оля, которой недавно исполнилось всего 19, закончила год на 61-м месте в классификации Женской теннисной ассоциации. Успех в матче с южноамериканками открыл нашей сборной дорогу в Мировую группу, где первыми соперницами белорусок станут теннисистки Чехии во главе с чемпионкой Уимблдона-98 Яной Новотной.

Дублерши Зверевой и Барабанщиковой — 19-летняя Татьяна Пучек (№ 230) и 18-летняя Надежда Островская (№ 260 WTA). Пучек — весьма одаренная теннисистка, которой мешает продвигаться вперед не вполне устойчивый характер. Островская, пожалуй, уступает Пучек в чисто теннисном даровании, но превосходит ее в степени концентрации и психологической стабильности. За год она совершила восхождение почти на 200 ступеней вверх по рейтинговой лестнице.

## Покорители Уимблдона

А ведь парни порадовали даже больше, потому что от них особых чудес не ждали. Приоритет в достижениях следует отдать не кому-то персонально, а мужской сборной Беларуси, которая в матчах 2-й группы Евро-Африканской зоны Кубка Дэвиса превзошла соперников из Люксембурга — 5:0 (дома), Марокко — 3:2 и Кот-Д'Ивуара — 4:1. Обе встречи с африканцами игрались на чужих кортах в сильную жару. Но белорусские ребята — Владимир Волчков, Максим Мирный, Александр Швец (запасной Евгений Михеев) — показали и высокий уровень владения ракеткой, и твердость духа, и сплоченность. В награду — путевка в 1-ю группу той же зоны (выше только Мировая группа), за которую боролись долгих четыре года. Теперь впереди маячит поединок в Киеве с украинцами в конце января.



Максим Мирный (слева) и Александр Швец.

Но и выступая порознь, Волчков и Мирный поразили воображение и своих болельщиков, и теннисных экспертов. Еще в январе на открытом чемпионате Австралии 21-летний Мирный в миксте с россиянкой Еленой Лиховцевой дошел до полуфинала, а летом — на самом престижном Уимблдонском турнире — в союзе с темнокожей 17-летней американкой Сереной Уильямс сенсационно стал победителем. Через два месяца Макс и Серена подтвердили свой приоритет, выиграв и открытый чемпионат США. Мирный слывет специалистом именно в парной игре. Недавно его альянс с москвичом Андреем Ольховским принес им первенство на турнире в Австрии, а летом Максим вместе с товарищем по сборной Волчковым выиграл состязание в Англии. К слову, пара Мирный — Волчков в матчах Кубка Дэвиса одержала восемь побед и ни разу не проиграла.

Володя Волчков самых больших своих успехов добился также на Уимблдоне. Два года назад он выиграл там чемпионский титул среди юниоров, а нынче успешно преодолел три квалификационных круга (чего прежде белорусам не удавалось), а затем переиграл «стреляного австралийского волка» Майкла Теббатта и совсем уж устроил фурор, «высадив» словака Кароля Кучеру, ставшего одной из звезд сезона-98. Пять побед подряд измотали 20-летнего минчанина, и шестая от него увернулась, хотя он вел в матче с итальянцем Давидом Сангинетти после трех сетов — 2:1. Пару недель назад в Мексике Волчков впервые стал победителем турнира из серии «Челленджер» и занимает теперь в мировой классификации 151-ю строчку — лучший результат среди белорусов. А ведь год назад находился на 304-й позиции.

Итак, Зверева — на высоте, Барабанщикова, Волчков, Мирный, Пучек, Островская — на взлете. На днях вернулась из Риги с победой в зональном турнире первенства Европы наша женская команда (Марина Стец, Ольга Глущенко, Елена Яришко), завоевавшая право выступать в будущем году в первой лиге. Есть надежды и на тинейджеров. Международный турнир, завершившийся в минувшие выходные во дворце тенниса, принес удачу минчанам Нине Алекситович и Федору Дудчику (до 16 лет), Александру Скрипко (до 12). Но, пожалуй, более других удивила 12-летняя Дашенька Кустова, занявшая третье место среди 16-летних.

Есть в нашем теннисе масса нерешенных и нерешаемых проблем, но пока не будем о грустном.

# Самая дорогая улица

**Новый мировой рекорд записал в свой «послужной список» крупнейший город США — Нью-Йорк. Отныне в нем расположена улица, где арендная плата за единицу торговой площади является самой высокой на планете.**

Рекордсменкой стала Мэдисон-авеню, где аренда одного квадратного фута (чуть меньше 0,1 квадратного метра) стоит в среднем 550 долларов в год.

Год назад Мэдисон-авеню уступала своей знаменитой соседке — Пятой авеню, где считалось исключительно престижным открыть свой магазин. И все же «Пятой» пришлось отступить. Дизайнеры с мировым именам устремили свои взгляды на соседнюю улицу, на которой каких-то 5 лет назад чуть ли не каждый блок был испещрен мертвыми витринами пустовавших помещений. Появление нового скопления дизайнерских магазинов объясняется тем, что их владельцы чувствуют необходимость быть рядом, чтобы не отстать одному от другого. Стоит появиться одному бутику и рядом начнут открываться другие. В результате Мэдисон забита столь плотно, что если освободилось помещение, то хозяину даже не надо давать объявление, чтобы найти претендента.

*Психологи советуют*

# Письмо любимому

**Вместо того, чтобы рассказывать мужу или другу, как вы его любите, выберите время и напишите ему старомодное любовное послание.**

Написанное от руки письмо, говорят они, — быстро исчезающая роскошь в наш электронный век. Но психологи утверждают, что прочувствованное письмо возлюбленному укрепляет духовную связь, создавая ощущение единства.

Мозг, получающий комплименты, выделяет поднимающие настроение эндорфины. И, конечно, ваш собственный мозг, делающий эти комплименты, тоже получает удовольствие. Психологи рекомендуют включить в письмо, от которого он растает, следующие элементы:

Первая строка. Начните с объявления своих чувств типа «Я так тебя люблю, что не могу не высказать, что у меня на сердце».

Осыпьте его похвалами. Перечислите все, за что его любите. Представьте себе, что он сидит перед вами, обойдите его со всех сторон и перечислите, что любите в его внешности, его характере и его поступках.

Не изменяйте себе. Если вы человек несентиментальный, то не напускайте сентиментальности (вам от этого станет плохо). Изложите свои чувства от чистого сердца, простыми словами — он все равно поймет, и ваше послание будет более искренним.

Исключите из своих комплиментов слово «но». Например, за «Я так люблю, когда ты меня целуешь» ни в коем случае не должен следовать укор «Но это случается так редко».

**Б.П.**



© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996 Юрыдычны адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1271 Нумар падпісаны ў друк 08/12/98 (15:00) Наклад — 18.220